


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 5 (639)**
**Травень 2019 г.**


## Чарнобыльскі мітынг на Мангэтане

У пятніцу, 26 красавіка, на Мангэтане насупраць штабкватэры ААН на Першай авэню прайшоў мітынг, ладжаны Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем “Пагоня” да 33-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Нягледзячы на даволі моцны дождж і працоўны дзень, на мітынг прыйшло спора людзей, у тым ліку з іншых штатаў.

Напачатку перад прысутнымі выступіў старшыня “Пагоні” сп. Віталь Зайка. Ён сказаў, што людзі ў Беларусі дасюль жывуць на забруджаных радыяцыяй землях і ня маюць належнай дапамогі ад уладаў, якія усяляк імкнуцца замаўчаць і трывіялізаваць наступствы аварыі. Гэта нагадвае дзеяньні падчас самой аварыі, калі савецкія ўлады спрабавалі схаваць трагедыю і яе маштабы. Дата Чарнобылю не адзначаецца афіцыйна, а сёлета ўлады зрабілі немажлівымі нават жалобныя шэсьці, увёўшы ў Менску аплату з паслугі міліцыі пры правядзеньні масавых шэсьцяў, патаптаўшы гэтым канстытуцыйнае права грамадзянаў на сходы.

Затым сп. Зайка спыніўся на палітыцы кіраўніцтва РБ у дачыненьні да радыяцыйнай бясьпекі жыхароў пацярпелых раёнаў, на адмене ільготаў для ліквідатараў аварыі і на шэрагу паведамленьняў, што сьведчаць аб пагаршэньні стану здароўя беларусаў, росьце анкалягічных захворваньняў. Прафэсар Бандажэўскі, спэцыяліст па радыяцыйнай мэдыцыне, што быў рэпрэсаваны за агалашэньне інфармацыі, адзначыў, што дзеці, народжаныя на забруджаных тэрыторыях, маюць здароўе горшае, чым у іхных бацькоў. Таксама выклікае трывогу будова Астравецкай АЭС, што набліжаецца да завершаньня. Гэта падаецца амаль ці не трыюмфам

*заканчэньне на бачыне 2*




## Падтрымаем дударскі фэст

На мяне заўсёды рабіла ўражаньне разуменьне беларусаў замежжа, асабліва беларусаў Амэрыкі, важнасьці фінансавай падтрымкі беларускіх праектаў. Айцец Надсан некалі сказаў мне, што беларускі праект можна зрабіць выключна за беларускія грошы. Прасьцей, канешне, фінансаваць справы, якія закранаюць цябе напрамую, якія ты бачыш і ў якіх сам. Аднак цягам многіх гадоў працы на карысьць беларускай дыяспары я зразумеў, што ўсё ж нашыя асноўныя справы павінны быць накіраваныя на жыцьцё людзей у Беларусі. Для мяне такім асноўным праектам стаў Міжнародны фэст дударскіх рэгіёнаў на Глыбоччыне. Глыбокае і ягоныя ваколіцы – мая малая радзіма, таксама месца, зьвязанае са шматлікімі слядамі жывой дударскай культуры. Сёлета фэст пройдзе ўжо трэці раз. Плануюцца шматлікія канцэрты з удзелам дудароў з Польшчы, Македоніі і Харватыі. Хто быў на фэсце або бачыў фота і відэа рэпартажы ведае, якая ўнікальная атмасфэра пануе ў гэтыя дні ў Глыбоцкім краі. Такога маштабу імпрэза, канешне, патрабуе фінансавых выдаткаў, а адзіная падтрымка, на якую можа разлічваць фэст, гэта дапамога самога гораду. Аднак, каб працягваць справу, нам патрэбная дапамога звычайных беларусаў, як глыбачан, аматараў дуды, так і беларусаў замежжа, якія разумеюць важнасьць культурных праектаў такога пляну ў беларускай глыбінцы. Можа вы так, як і я, верыце, што гучаньне дуды настолькі ж базавае для душы беларуса, як і мова. Можа вам дарагі рэгіён беларускага Паазер’я, сэрца ўсёй Беларусі. Можа вы лічыце, што захаваньне культурнай спадчыны – гэта аснова нашай будучыні. Так ці сяк, вы маеце магчымасьць фінансава падтрымаць гэтую ініцыятыву і фэст. Талака праводзіцца на базе польскай плятформы, але ўжо праверана, што яна без праблемаў прыймае плацяжы карткамі *Visa* і *Mastercard*. Апісаньне даступнае на ангельскай мове.

Далучайцеся! **https://zrzutka.pl/en/ued3zd**



*Карціна глыбоцкага мастака Эдуарда Мацюшонка „Абуджэньне“ (Дударам Глыбоцкага краю)*

***Віталь ВОРАНАЎ***

# Красавіцкі сход Згуртаваньня "Пагоня"

У суботу, 13 красавіка, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы, красавіцкі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка распавёў пра імпрэзы, што адбыліся ў сакавіку, і пра мерапрыемствы, заплянаваныя на бліжэйшы час.

Затым ён прадставіў і перадаў слова госьці сходу – адвакатцы сп-ні Марыі Жыновіч. Марыя атрымала юрыдычную адукацыю на Бацькаўшчыне і прыехала зь Беларусі ў Злучаныя Штаты дастаткова даўно. Яна прайшла адвакацкі іспыт на права юрыдычнай практыкі ў ЗША і займалася іміграцыйным правам, а цяпер спэцыялізуецца на сямейным праве. Сваю прэзэнтацыю сп-ня Жыновіч зрабіла ў фармаце паўэр-пойнт і суправаджала яе пашыранымі камэнтарамі з уласнай практыкі. Перш за ўсё, яна параіла адказна паставіцца да выбару адваката, які будзе весьці іміграцыйную справу, атрымаць пра яго максымальную інфармацыю, водгукі. Таксама варта спраўдзіць празь сеціва наяўнасьць у гэтага юрыста адвакацкай ліцэнзіі, бо, парадаксальна, але часам бываюць выпадкі, калі за справы бяруцца людзі з пратэрмінаванай, скасаванай або наагул адсутнай ліцэнзіяй.

Людзі, што прыяжджаюць зь Беларусі, мяняюць свой юрыдычны статус у розныя спосабы, найболей распаўсюджаныя – атрыманьне палітычнага прытулку і статусу ўцекача. Таксама часам выпрабляюцца працоўныя візы, візы на адмысловыя таленты. Асобна мяняецца статус, калі асоба ўступае ў шлюб са сталым жыхаром (рэзыдэнтам, маючым грын-карту) або грамадзянінам ЗША. Таксама важна ведаць, што ёсьць шэраг прыкметаў, па якіх можна вызначыць, наколькі сур'ёзна і адказна адвакат ставіцца да канкрэтнай судовай справы, і калі варта падумаць аб абмове ад ягоных паслугаў. Сярод такіх прыкметаў – калі адвакат хвалько, што гарантуе пасьпяховы вынік справы або ўхіляецца ад адказаў на канкрэтныя пытаньні, калі цягне з падпісаньнем кантракту і вызначаньнем усіх дэталяў дамовы, калі цэлы час выстаўляе замест сябе памочнікаў і сакратароў. Таксама неабходна адразу абгаварыць і вызначыць усе паслугі й аплату за іх, каб пасьля ня мець выстаўленых адвакатам сюрпрызаплатаў.

Далей сп-ня Жыновіч спынілася на паняцьці палітычны прытулак (азыль), і тых прынцыпах, якімі звычайна карыстаюцца супрацоўнікі службы іміграцыі й натуралізацыі, калі праводзяць сумоўі з асобамі, што падаюць на палітычны прытулак. Звычайна справа пачынаецца з паданьня заявы на азыль, па якой прызначаецца сумоўе ў іміграцыйнай службе. Часам азыль даецца пасьля інтэрвію, але ў большасьці выпадкаў справа перадаецца далей у іміграцыйны суд. Асноўная задача шукальніка азылю – пераканаўча давесьці, што ў выпадку вяртаньня ў краіну паходжаньня гэтая асоба сутыкнецца з рэальнай пагрозай для свайго жыцьця і свабоды з боку ўладаў і дзяржаўных арганізацыяў або збоку структураў, якія ўлады не жадаюць або ня ў стане кантраляваць. Галоўным пытаньнем на інтэрвію заўсёды бывае: "Чаму вы ня хочаце вяртацца ў сваю краіну?" І часта на гэтае пытаньне адказваюць так: "Бо хачу лепшай долі для сябе й сваіх дзяцей". І вось такі адказ звычайна вядзе да адмовы ў азылі, бо не адпавядае тым крытэрам, якія вызначаюцца для легітымных шукальнікаў азылю. Марыя пералічыла асноўныя патрабаваньні, якім мусяць задавальняць пасьпяховыя звароты па азыль: сяброўства ў пэўнай палітычнай або сацыяльнай групе, зьмена абставінаў, ахвяра хатняга гвалту і падобна.

Затым сп-ня Жыновіч распавяла пра асаблівасьці разгляду судовых справаў і рэчы, на якія трэба зьвярнуць увагу, працуючы з адвакатам. Ня ўсе ведаюць, напрыклад, што адвакат ня мае права раптоўна кінуць судовую справу і спыніць дапамогу кліенту, нават калі той мае запазычанасьці ў аплаце паслугаў. Ёсьць спцыяльныя інстанцыі, у якія можна дасылаць скаргі на адвакатаў і на іхныя дзеяньні або бязьдзейнасьць.

Прамоўца спынілася на парадку падаваньня на азыль, на дакумэнтах, якія трэба сабраць, і на працэдурах, якія трэба мець пад увагаю, праходзячы па справе аб палітычным прытулку. Таксама яна закранула асаблівасьці працэдуры, што тычацца сужэнцаў падчас працэсу разгляду справы, і таксама пасьля разгляду і нават пасьля вынясеньня вердыкту па справе.

Таксама былі ўзгаданыя розныя акалічнасьці, зь якімі часта маюць справу выхадцы зь Беларусі – побыт у трэціх краінах перад прыездам у ЗША, наяўнасьць грамадзянства з трэціх краінаў, наяўнасьць "карты паляка" ды іншае. Потым сп-ня Жыновіч спынілася на кроках у кірунку набыцьця грамадзянства ЗША пасьля пазытыўнага вырашэньн справы аб азылі або ўцякацтве – атрыманьне травэл-дакумэнту, грын-карты, натуралізацыя, артыманьне пашпарту грамадзяніна ЗША.

Пасьля Жыновіч адказала на шматлікія пытаньні. Яе прэзэнтацыя была зь вялікай цікавасьцю праслуханая прысутнымі.

Затым у разьдзеле "Рознае" адбыліся знаёмствы з гасьцямі "Пагоні".

Пасьля сканчэньня афіцыйнай часткі прысутныя працягнулі знаёмствы й гутаркі пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

## Чарнобыльскі мітынг на Мангэтане

***заканчэньне з бачыны 1***

"дальнабачнасьці" рэжыму. Дазволеная рэжымам Лукашэнкі манапалізацыя Расеяй усіх кантрактаў, што зьвязаныя з атамнай энэргетыкай Беларусі, яшчэ глыбей зацягвае Беларусь у эканамічную і палітычную залежнасьць ад Расеі. І тут немагчыма разважаць пра нейкую "энэрганезалежнасьць", што была асноўным чыньнік пабудовы АЭС. Больш таго, манапалізм расейцаў і сумніўная якасьць іхных нуклеарных тэхналёгіяў ставяць пад пагрозу будучыню ўсёй краіны. Таму ў дзень 33-й гадавіны трагедыі Згуртаваньне "Пагоня" выказала сваю салідарнасьць з пацярпелымі ад радыяцыі і заявіла пратэст супраць стварэньня падставаў для далейшага зацягваньня Беларусі ў залежнасьць ад Расеі, стварэньня ўмоваў для новага Чарнобылю ў Беларусі.

Прысутныя на акцыі заявілі пратэст супраць дзеяньняў рэжыму Лукашэнкі па хаваньню праўдзівай інфармацыі пра стан справаў, зьвязаных з радыяцыяй. Людзі прайшлі ўздоўж пляцоўкі мітынгу, выгукаючы: "Жыве Беларусь!", "Не – новаму Чарнобылю!", "Далоў Лукашэнку", "Беларусь – ТАК! Лукашэнка – НЕ!" Луналі нацыянальныя беларускія сьцягі.

Цікава, што недалёка сядзела японская манашка-будыстка, што сымбалічна бомкала ў свой бубен у памяць пра забойства людзей на Шры-Ланцы і ахвяраў трагедыі АЭС-Фукусіма некалькі год таму, якая далучыла свой голас да скандаваньня "Не – новаму Чарнобылю!", "Не – новай Фукусіме!"

**Віталь ЗАЙКА**

# “Дэмакратыя” і калегія выбарцаў

Існуе палітызаванае і даволі супярэчлівае слова, якое было створана пры спрыяньні дзяржаўнага істаблішмэнту ЗША як ключавы складнік па фармаваньні і кіраваньні грамадзкай сьвядомасьцю. Яно гучыць сотні разоў на дзень у дзяржаўных установах і мэдыях. Вельмі “разумныя” людзі вымаўляюць яго, калі гавораць пра вольнасьць і свабоду.

Але гэтае слова мае цёмнае і прыхаванае значэньне. Гэта толькі прыкрыцьцё для фашызму, сацыялізму і тыраніі. Гэта рухавік прапаганды амэрыканскіх глябалісцкіх элітаў. Яго вывучаюць у школах (дзяржустановах ідэалягічнай апрацоўкі) як крыніцу ўсіх правоў і свабодаў. Палітыкі вельмі любяць яго і часта выкарыстоўваюць. Яго любілі Гітлер і Гебельс. І гэтае слова “дэмакратыя”.

Сёньня актывісты Дэмакратычнай партыі і разумнікі з прадзяржаўных прапагандысцкіх мэдыяў патрабуюць адмяніць калегію выбарцаў (Electoral College), традыцыйную сыстэму выбараў прэзыдэнта краіны. Чаму? “Дэмакратыя”.




Тут няма нічога новага. Яны кажуць, што калегія выбарцаў (КВ) – абраза свабоды, бо яна прадухіляе дэмакратыю. Справа ў тым, што апошнія прэзыдэнцкія выбары па агульнай колькасьці галасоў выйграла Гіляры Клінтан, але КВ, на іхнюю думку, дала нам мярзотніка Трампа. Напярэдадні чарговых прэзыдэнцкіх выбараў заклікі да ліквідацыі “састарэлай” сыстэмы КВ і руху да “сапраўднай дэмакратыі” становяцца яшчэ мацнейшымі.

У красавіку сёлета лідэры дэмакратаў у Сэнаце зрабілі новыя захады ў гэтым кірунку, прадставіўшы новы законапраект па ліквідацыі ненавіснага ім КВ. Бальшыня магчымых кандыдатаў у прэзыдэнты ад Дэмакратычнай партыі падтрымліваюць такі крок.

Прыхільнікі гэтай ідэі запэўніваюць, што яна зробіць ЗША “дэмакратычнейшымі”. І тут хаваецца падман. Дэмакратыя – гэта эзатэрычная сыстэма параканальняў, якая маніпулюе людзьмі такім чынам, што ўлада ад народу перацякае да дзяржавы. Як у тыповай дыктатуры, улада ідзе зьверху ўніз. Дэмакратыя мае на ўвазе свабоду ў грамадзкай сьвядомасьці, у той час як улада і матэрыяльныя каштоўнасьці ўвесь час накіроўваюцца ўраду. У “дэмакратыі” свабода асобы рэгрэсіўна руйнуецца. Ідэя ўзьнікненьня Злучаных Штатаў ад пачатку была заснаваная на як мага большым абмежаваньні ўплыву дзяржавы на жыцьцё грамадзянаў.

Дэмакратыя – гэта такое слова, якое вельмі любяць палітычныя партыі і палітыкі ўсіх гатункаў па ўсяму сьвету. Але гэта толькі прыкрыцьцё для камунізму, сацыялізму, фашызму, клясавай вайны, эксплюатацыі і маніпуляцыі меншасьцяў, супраць стабільнасьці, культурнай спадчыны і прыватнай уласнасьці. Дарэчы, камунізм, сацыялізм і фашызм усе аднолькавыя. І не давайце сябе заблытаць заявамі, што адныя зь іх правага, а іншыя левага кшталту філязофіі. Яны ўсе адбіраюць уладу ў народу і перадаюць дзяржаве. Розьніца між імі толькі сэмантычная.

Калі палітыкі вымаўляюць слова “дэмакратыя”, яны выкарыстоўваюць кодавае слова, якое азначае іхнюю татальную вернасьць дзяржаве. Яны выкарыстоўваюць гіпноз для маніпуляцыі людзьмі супраць чалавечай свабоды.

ЗША былі заснаваныя як рэспубліка. Калі Бенджаміна Франкліна спыталі, які тып ураду яны стварылі, той адказаў: “Рэспубліку, калі здолееце яе ўтрымаць.” Айцы-заснавальнікі найбольш баяліся двух рэчаў: дэмакратыі і празьмерна моцнай выканаўчай улады. І калегія выбарцаў была створаная менавіта для таго, каб гэта прадухіліць.

Заснавальнікі ЗША вынайшлі мэтад выбараў празэдэнта краіны з выбарцамі ад кожнага штату, а не агульнай колькасьці галасуючых. Колькасьць выбарцаў адпавядае колькасьці кангрэсавых дэлегацыяў штатаў. Той кандыдат у прэзыдэнты, які набраў бальшыню галасоў выбарцаў, і становіцца прэзыдэнтам. Калі ніхто з кандыдатаў не набраў большыні, то прэзыдэнта абірае палата прадстаўнікоў з ліку трох кандыдатаў, набраўшых найбольш галасоў.

Без КВ кандыдату ў прэзыдэнты трэба было б набраць толькі простую большасьць галасоў зь пяці ці шасьць найбольш населеных штатаў. Сёньня дэмакраты маюць рашаючую перавагу ў гэтай матэматыцы, бо яны падтрымліваюць сацыялізм, а меншасьці любяць сацыялізм, і яны маюць тэндэнцыю сяліцца ва ўрбанізаваных раёнах вялікіх гарадоў. Спадзяюся, што ніжэйпададзеная статыстыка пераканае чытачоў у важнасьці захаваньня сыстэмы КВ, у якой улічваецца кожны голас.

1. ЗША мае 3141 акругу (county). Трамп выйграў 3084 зь іх. Клінтан выйграла толькі 57.

2. Штат Нью-Ёрк мае 62 акругі. Трамп выйграў 46 зь іх. Клінтан толькі 16.

3. Клінтан набрала народным галасаваньнем, прыкладна, на 1,5 млн. галасоў больш.

4. У пяці акругах, зь якіх складаецца горад Нью-Ёрк (Бронкс, Бруклін, Мангэтан, Рычманд і Куїнс), Клінтан атрымала на 2 млн. галасоў больш, чым Трамп. (Клінтан выйграла ў чатырох акругах, а Трамп толькі ў Рычманд.)

5. Гэтыя пяць акругаў займаюць 319 кв. міляў, а ўся краіна складаецца з 3 797 000 кв. міляў.

6. Калі ёсьць акругі, што ахопліваюць амаль 4 млн. кв. міляў тэрыторыі, то сьмеху вартая прапанова, што насельнікі 319 кв. міляў будуць вырашаць вынікі нацыянальных выбараў. Вялікія, шчыльна заселеныя люмпэнамі-халяўшчыкамі гарады, ня могуць і не павінны дыктаваць сваю волю рэшце краіны. Менавіта для гэтага і існуе калегія выбарцаў.

І калі “дэмакратыя” – гэта эквівалент свабоды, то якім чынам вынік выбараў, заснаваны на галасах толькі пяці акругаў гораду Нью-Ёрку, ёсьць “дэмакратыяй”?

Кожны, хто шукае свабоду, канфідэнцыйнасьць, прыватную ўласнасьць у дэмакратыі, той жыве найвялікшай ілюзіяй. Трэба вызваліцца ад гэтай спакусьлівай ідэі дзяржаўнага дэспатызму. Яна душыць нашую сьвядомасьць, душу і гонар.

Дэмакратыя – гэта вера, дзяржаўная рэлігія, душэўны стан. Гэта прагрэсіўнае зьнішчэньне асобы-індывіда. Яна прыкрываецца маскаю дабразычлівасьці, ахвярнасьці і братэрства. Але ў сапраўднасьці дэмакратыя – гэта нешта супрацьлеглае агульнапрынятаму ўяўленьню. Яна ёсьць тыраніяй, камуфляжам для дыспатыі, і яе мэта ніяк ня меншая, чым сусьветнае рабства.

Калі людзі вераць, што яны свабодныя, то сыстэма можа накладваць на іх любыя абмежаваньні. Мэнтальная дэмакратыя – гэта псыхалягічная зброя дзяржавы, якая заахвочвае народ падпарадкоўвацца сыстэме і любіць дзяржаву. Адмена КВ не прасуне “дэмакратыю”, а толькі наблізіць поўнае зьнішчэньне свабоды асобы. Памятайце, што Адольф Гітлер казаў, што Нямеччына была “дэмакратыяй у лепшым разуменьні гэтага слова”.

**Я. ЗАБАЛІНСКІ**

# "Галгатня пра ЗыШыА"

## Мастацтва пазнаваньня – мастацтва выжываньня

Амэрыка ніколі не асацыявалася з мастацтвам, і ўсё ж сталіцаю сучаснага мастацтва лічыцца Нью-Ёрк. Звоніш у дзьверы, сядаеш перад дзвярыма, здымаеш штаны, робіш сваю справу – мастацкі пэрформанс. Сядаеш перад дзвярыма, здымаеш штаны, робіш сваю справу, звоніш у дзьверы – мастацкая інсталяцыя. Такім жартам часам тлумачаць нюансы ў сучасным мастацтве. На самой справе сучаснага мастацтва, як прадаўжэньня або разьвіцьця раней запачаткаваных стыляў і формаў, няма. Жывем у эпоху антымастацтва – калі ўсё тое, што вякамі ў мастацтве цанілася, стварала ягоны канон, цяпер падмяняецца фэкаліямі, менструальнай крывёй і штучнымі таўкачамі. У аснове такога антымастацтва ляжыць патрэба шакаваць, дэсакралізаваць, сьвятазьняважыць. Адсюль няспынныя оргіі з сымбалямі веры (амаль заўсёды хрысьціянскімі), акты з палавымі органамі, іншыя стандартныя і нестандартныя вычварэнствы перад усё больш пераўзбуджанай пубікай.

Задачай мастацтва заўсёды было зачапіць душу. Задача антымастацтва – апаганіць, дэзарыентаваць, разбэсьціць. У першую чаргу гэта палітычны інструмэнт, змаганьне з царквою. У другую – размываньне канонаў, чалавек не павінен развучыцца пазнаваць сапраўднае мастацтва. Па трэцяе – публіку спрабуюць асвоіць і зачараваць рознымі актамі з элемэнтамі сатанізму і акультызму. Найлепшым прыкладам усяго пералічанага лічыцца аўтарытэтная ў многіх мастацкіх колах Марына Абрамовіч з Амэрыкі.

Яно прыйшло ў вычварнай архітэктуры, як вядомы дом з чарапамі ў Ратамцы пад Менскам. Яго паспрабавалі ўвесьці пад выглядам вялікафарматнага графіці ў вобразе "Анёла сьмерці" і ў постаці "помніка вагіне". Некаторыя праекты такога тыпу праваліліся, бо грамадзтва інтуітыўна, але апэрытыўна ўзяло справу ў свае рукі. Аднак многія працягваюць думаць, што ўсё гэта сапраўды пра мастацтва і нават







У Беларусь, нягледзячы на пэўны кансэрватызм, такое мастацтва прыйшло ў камуфляжы забаўляльна-мастацкіх праектаў, такіх як сядзіба Літоўка пад Навагрудкам, якая давяла свайго гаспадара да самагубства, а прыбліжанага да яго псэўдасьвятара да турмы. пішуць пра гэта рэцэньзіі, абараняюць дыплёмы, уручаюць сабе прэміі.

Раней мастацтва было для элітаў. Цяпер крытыкам павінен стаць кожны, хто хоць зрэдчас задумваецца пра выжываньне.

**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне
**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| П. Скрабко | 70 |
| П. Бойка | 60 |
| К. Буяр | 60 |
| Л. Врублеўская | 60 |
| А. Дамастой | 60 |
| А. Данькоў | 60 |
| Д. Калесьнік | 60 |
| І. Кудзінаў | 60 |
| П. Пацэнка | 60 |
| С. Скародзька | 60 |
| А. Солад | 60 |
| А. Ярмаловіч | 60 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" *Viktar Yedzinovich.***

# Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "ПАГОНЯ"**
адбудзецца ў суботу **11-га траўня 2019 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.
Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

На штомесячных сходах арганізацыі можна таксама аплаціць сяброўскія складкі і падпіску на інфармацыйны бюлетэнь.

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| Я. Барысевіч | 30 |
| П. Бойка | 30 |
| Л. Врублеўская | 30 |
| Д. Калесьнік | 30 |
| І. Кудзінаў | 30 |
| А. Лапцёнак | 30 |
| П. Пацэнка | 30 |
| С. Скародзька | 30 |
| П. Скрабко | 30 |
| А. Солад | 30 |
| А. Ярмаловіч | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" **Viktar Yedzinovich**.*